*Мы — беларусы*

# Крыху святла і сонца ў халоднай вадзе

Іван РУБІН
Сяргей ГРЫЦ (фота)

**Ці бачыў хто з вас, каб настаўнік стаяў на каленях? Менавіта такую сцэну мне даводзілася назіраць у Мінскім харэаграфічным вучылішчы на адной з рэпетыцый. Прызнаюся, гэта спачатку шакіравала. Пасля я зразумеў, што менавіта так выхоўваецца сапраўдны талент — гадзінамі напружанай манатоннай працы з сотнямі, тысячамі паўтораў павароту галавы, раскрылля рук, з палёту мроі, з поту вучня і настаўніка. А мы, за рэдкім выключэннем, бачым толькі вынікі гэтай працы — сапраўдны танец— паэзію душы і цела. Бачым гармонію гукаў і рухаў.**

— Вучылішча — мой дом, — сказала Людміла Каробкіна. І таксама здзівіла сваёй, калі можна так сказаць пра жанчыну, самаўпэўненасцю і безапеляцыйнасцю. І толькі пасля працяглай размовы, знаёмства з усёй гаспадаркай і навучэнцамі задумаўся: а хто яна тут — дырэктар, музыказнаўца, выхавацель, адміністратар? І ні адно азначэнне поўнасцю не падыходзіла.

Так, яе дом. Бо новы будынак Мінскага харэаграфічнага вучылішча — вынік яе нежаноцкіх намаганняў, пошукі спонсараў. Але нездарма гавораць, што жанчына можа хутчэй дамовіцца з тымі ж будаўнікамі, падрадчыкамі , шэфамі. І тут ужо не да балета. Але не такая Каробкіна. Менавіта за ўсім гэтым яна бачыць вынік — віртуозны танец сваіх выхаванцаў. Бачыць іх ідэальнымі. Прыгожымі. А для гэтага не шкада ні сіл, ні часу. І нават не баіцца таго, што нехта высокачыноўніцкі прыйдзе на гатовенькае. Зрэшты, ці прыйдзе? Ці дазволіць калектыў? Сама ж каля трох гадоў назад прайшла праз сіта кандыдатур на гэту пасаду.

Яе бліжэйшая задача — стварэнне на базе вучылішча Беларускай балетнай акадэміі, якая павінна стаць асяродкам нацыянальнага балета. Беларусь жа тут мае свае набыткі і традыцыі. Варта прыгадаць XVIII стагоддзе. Оперна-балетныя тэатры, музыкальна-культурныя цэнтры, харавыя капэлы ў Нясвіжы, Гародні, Слоніме, Слуцку, Шклове. Менавіта ў Беларусі выпеставаліся асновы санкт-пецярбургскага Марыінскага тэатра. Менавіта Беларусь дала парасткі некаторым расійскім і еўрапейскім харэаграфічным школам. І нічога дзіўнага не будзе, калі сённяшнія пяцікласнікі-шасцікласнікі стануць гордасцю беларускага балета, узнімуць яго на вяршыні сусветнай славы, зробяць Мінск адной з балетных сталіц свету.

Гэта мары. Вучылішча адлічвае першыя месяцы. Так, месяцы. У новым будынку павінна быць усё новае, святочнае. І нават "непрымірымая вайна" з санстанцыяй, пажарнікам, хаця і паліць штодня нервы і не ўкладваецца ў па-дэ-катр, выглядае як просты прыём харэаграфіі. Але як няпроста ў наш суцемны час даецца кожны крок, як першакурсніцы, якая мроіць аб вяршынях майстэрства. А тут табе не толькі гавораць — камандуюць, дзе размяшчаць вешалкі, пакоі і іншыя "дробязі". Гэтых жа дробязей нямала — свая крама, медпункт з тэрапеўтычным і стаматалагічным кабінетамі (абсталяванне амерыканскае), і цырульня (для дзяцей бясплатна), і сталоўка, і інтэрнат гасцінічнага тыпу. А ў планах — цэлы гарадок: другі будынак акадэміі, балетныя залы, тэатр на тысячу месцаў, медыка-ўзнаўленчы цэнтр, гасцініца, басейн, сауна, інтэрнат, офісы, кватэры...

257 дзяцей, юнакоў і дзяўчат, займаюцца ў вучылішчы. На сваю рызыку Людміла Фёдараўна адкрыла аддзяленне народнага танца. Рызыкнула, а цяпер хвалюецца, бо сродкамі гэта не прадугледжана, хутка не будзе чым плаціць выкладчыкам зарплату. А гэта ж аснова для нацыянальнага балета. Толькі зноў жа чуваць тая пажарная каманда "инструкцией не положено". Добра, што знаходзіць яна поўнае паразуменне і падтрымку ў Міністэрстве культуры, у таго ж Валянціна Елізар'ева, шматлікіх спонсараў — сваіх і замежных.

— Мае выхаванцы самыя ідэальныя, — нечакана заяўляе Каробкіна. — Багатая на таленты беларуская зямля, хаця ў вучылішчы дзеці як з блізкага замежжа, так і з многіх іншых краін свету. Таксама і выкладчыкі. Прыцягваем лепшыя сілы. Хацелася б, каб глыбінка наша дружней адгукнулася, бо навучэнцы ў асноўным з Мінска і абласных цэнтраў.

Дзеці ёсць дзеці. Праўда, ветлівасцю і культурай вызначаюцца. Некаторым дарослым не грэх было б павучыцца. Калі пакідаў вучылішча, яны ў двары ляпілі снегавіка, штурмавалі снежную крэпасць. А Каробкіна толькі ўздыхнула:"Эх, нам бы яшчэ мастака-дызайнера, садоўніка... Паглядзіце, што будзе ў бліжэйшы час — ідэальны музей".

Магчыма, яна перабольшвае. Ідэальнага не бывае. Але ў наш смутны і змрочны час жывуць яшчэ вера і надзея. А гэта, можа, і не так блага — крыху сонца і цяпла да надзённага хлеба.

## Надвор'е

Сёння днём па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў.

Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 1—3, Гомелі, Мінску — 2—4, Брэсце, Гродне — 3—5 градусаў цяпла.

## Астранамічны каляндар — 3.02

Узыход і заход сонца: Мінск — 7.54, 16.53; Віцебск — 7.48, 16.38; Магілёў — 7.43, 16.42; Гомель — 7.35, 16.45; Гродна — 8.08, 17.09; Брэст — 8.03, 17.15.

Даўжыня дня ў Мінску — 8 гадзін 59 мінут.

Першая квадра — 31 студзеня.

## *У кінатэатрах Мінска*

### 3 лютага

"МАСКВА": "Вуліца Вясёлкі" — 10.00 (л), 16.00. "Палёт чорнага анёла" — 12.00, 14.00, 18.00. 20.00, 22.00(н).

"КАСТРЫЧНІК": "Палёт чорнага анёла" — 10.00 (л), 13.50, 17.40, 21.30. "Вуліца Вясёлкі" — 12.00, 15.50, 19.40.

"АУРОРА": "Залаты цюлень"* — 10.00, 14.00. "Урга. Тэрыторыя кахання" (1,5 с.) — 11.40, 16.50, 19.10. "Сем'янін" — 16.20, 21.20. "Я прыйшоў з мірам" ("Анёл цемры") — 11.00, 13.00, 15.00 (л), 17.00, 19.00, 21.00.

"БЯРЭСЦЕ": "Кемлівыя дзяўчынкі"** — 11.30, 15.30, 19.30. "Закрый мае вочы" (1,5 с.)** — 13.30, 17.30, 21.30. "Урга. Тэрыторыя кахання" (1,5 с.) — 13.00, 17.00. "Па кім турма плача"(п) — 11.00, 15.10, 19.10, 21.00.

"ВІЛЬНЮС": "Урга. Тэрыторыя кахання" (1,5 с., рэж. М.Міхалкоў) — 18.30. "Я прыйшоў з мірам" ("Анёл цемры", фантастычны баявік) — 10.00 (л), 13.25, 15.00, 20.30. "Горац" (1,5 с., фантастычны баявік) — 11.30, 16.35, 22.00. Відэазала: 13.20, 15.25, 17.30, 19.35, 21.40.

"ДРУЖБА": "Я прыйшоў з мірам" — 10.30 (л), 13.40, 15.20, 17.00, 20.10, 21.50. "Сем'янін" — 12.10, 18.40. Відэазала "Баг Роджэр" (фантастыка) — 14.00, 16.10. "Танга і Кэш" (баявік з удзелам С.Сталоне) — 15.30, 17.40.

"ПАРТЫЗАН": "Палёт чорнага анёла"** — 12.00, 13.50, 17.20, 19.00. "Вуліца Вясёлкі" — 10.00 (л), 15.30, 21.00.

"ПЕРАМОГА": "Кемлівыя дзяўчынкі"** — 10.00 (л), 11.50, 13.40, 17.00, 20.20. "Камедыя старога рэжыму" — 15.30, 18.50. Відэазала: "Спакуснік" (містычная камедыя) — 10.00, 11.45, 13.35, 15.15, 17.05, 18.45, 20.35. Відэазала, відэакафэ: "Смяротны прыгавор" (баявік з удзелам Ж.-К.Ван Дама) — 11.10, 13.30, 15.50, 18.10, 20.40.

"ЦЭНТРАЛЬНЫ": "Урга. Тэрыторыя кахання" (1,5 с.) — 12.20. "Я прыйшоў з мірам" — 10.40, 14.20, 17.40, 21.00. "Па кім турма плача" (п) — 9.00 (л), 16.00, 19.20.



## *Праграма тэлеперадач*

### Серада, 3 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Раніца рэспублікі.
8.15. Фільм-канцэрт.
9.00. Гісторыя Беларусі. 8-ы клас.
9.35. "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачаха".
10.50. "Вар'яты на стадыёне". Маст. фільм.
12.15. "Кінакліп". Музычны фільм.
13.30. Навіны.
13.40. "Лятучая мыш". Маст. фільм.
15.55. "Сёння і штодзень". Тэлефільм.
17.00. "Следства вядуць Калабкі", "Наваселле ў браткі Труса", "Дзядулева дудачка", "Мудрасць беднай дзяўчыны". Мультфільмы.
18.00. Дак. фільм "Незнаёмы і дзівосны свет".
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Абласныя навіны (Гомель).
19.10. "Пяць зорак". Тэлегульня.
19.55. Здароўе.
20.30. ТА "Рэха". Спажывецкія клопаты.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачаха".
22.25. НІКа.
22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Беларускія музычныя весткі.

**Канал "Астанкіна"**

5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
7.45. Фірма гарантуе.
8.00. Навіны.
8.25. Канцэрт мужчынскага хору МІФІ.
8.55. Маст. фільм "Спіраль". 3-я серыя.
10.15. Для дзяцей. "Сабака і кот".
10.45. Прэс-экспрэс.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.20. "Скарбонка". Маст. фільм. 1-я серыя.
12.30. Мультфільмы "Пікіжаўтароцік", "Пластылінавая варона".
12.50. "Доўгія вёрсты вайны". Маст. фільм. 2-я серыя.
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.25. Тэлемікст.
15.15. "Стары збан". Мультфільм.
15.30. "Эміль з Ленеберге". Маст. фільм (Швецыя). 7-я серыя.
15.55. "Паміж намі, дзяўчынкамі..."
16.15. Мультфільм "Лятаючы дом". 2-я серыя.
16.45. Тэхнадром.
17.00. Навіны.
17.25. "Астанкіна" прадстаўляе: "Бяседа" (Беларусь).
17.50. "Пачвара". Мультфільм.
18.00. "Вяртанне ў Эдэм" (Аўстралія).
18.50. Мініяцюра.
19.00. "Дзе там!"
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. "Спіраль". 3-я серыя.
22.00. "Іосіф Кабзон у асяроддзі сяброў, калег і гледачоў". У перапынку (23.00) — Навіны.
23.50. "Абрамцава. Сава Мамантаў". Дак. фільм.
0.40. Прэс-экспрэс.
0.50. "Сабака Баскервіляў". Маст. фільм. 2-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Альбуцыд.
8.25. "Развітанне славянкі".
8.50. Незгаральная купіна.
9.20. Вуснамі дзіцяці.
9.50. Казка для дарослых.
10.20. Хавальнікі ісціны.
10.50. Мульці-пульці. "Каркуша".
11.00. "Захад". Маст.фільм.
12.25. Вольны час. "Пад знакам Рыбы".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
13.25. "Пані Марыя". Маст. фільм.
15.00. Сігнал.
15.15. Там-там навіны.
15.30. "15-гадовы капітан".
16.00. Далёкі Усход.
16.45. Хрысціянская праграма.
17.15. "Вельмі сучасная казка, ці Як Іванка-дурань са змеем змагаўся".
18.15. Расійскі бізнесмен-92.
18.45. Свята кожны дзень.
19.00. Весткі.
19.25. "Санта-Барбара".
20.15. Сам сабе рэжысёр.
20.45. Антракт.
21.00. Студыя "Нотабене".
22.00. Весткі.
22.20. Зоркі гавораць.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. Крымінальныя паведамленні.
22.40. На сесіі ВС Расіі.
23.10. "Комплекс паўнацэннасці. Кіно Сяргея Дзебіжава".

### Чацвер, 4 лютага

**Беларускае тэлебачанне**

8.00. Раніца рэспублікі.
8.15. А.Вядзернікаў. "Ціхая мая радзіма".
9.00. "Рамэо і Юлія". Фільм-балет.
9.15. "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачаха".
10.05. Фільм-канцэрт "Сустрэчы на арэне".
10.45. "Пяць зорак". Тэлегульня.
11.30. Георге Мунця. "Адкрыццё". Музычны фільм.
12.10. "Пачарпні з роднай крыніцы". Дак. фільм.
12.50. "Рамансы". Фільм-канцэрт.
13.10. "Сем бакоў квадрата". Навукова-папулярны фільм.
13.30. Навіны.
13.40. Дак. фільм.
14.05. "Яшчэ да вайны". Маст. фільм.
16.15. Беларуская літаратура. 10-ы клас.
17.00. Для школьнікаў. "Сустрэча з блакітнай птушкай".
17.30. "Калі вельмі захацець", "Цудоўныя лекі", "У сінім моры, у белай пене..." Мультфільмы.
18.00. "Данчык". Дак. фільм.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.00. Абласныя навіны (Гродна).
19.10. Зачытайце маё пісьмо...
19.15. Тры кіты. "Пакуты Вертэра, або Ода хаму".
19.55. Роднае слова.
20.25. Тыдзень беларускага ўрада.
20.40. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Лада ОМС" прадстаўляе: "Мачаха".
22.25. НІКа.
22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння — Тэлебіржа; Маст. фільм "Карупцыя"; Топ-агент.

**Канал "Астанкіна"**

5.00. Навіны.
5.20. Ранішняя гімнастыка.
5.30. Раніца.
7.45. Фірма гарантуе.
8.00. Навіны.
8.20. Кідзі-відзі.
8.35. "Спіраль". 4-я серыя.
10.10. ... Да 16 і старэйшым.
10.50. Прэс-экспрэс.
11.00. Навіны (з сурдаперакладам).
11.20. "Скарбонка". Маст. фільм. 2-я серыя.
12.25. "На паўстанку". Кароткаметражны фільм.
12.50. "Доўгія вёрсты вайны". Маст. фільм. 3-я серыя.
14.00. Навіны (з сурдаперакладам).
14.25. Тэлемікст.
15.10. Блакнот.
15.15. Мультфільм "Пацец".
15.35. "Эміль з Ленеберге". Маст. фільм (Швецыя). 8-я серыя.
16.00. "Як мы". Перадача з Тулы.
16.25. Адзіны свет.
17.00. Навіны.
17.20. ... Да 16 і старэйшым.
18.00. "Вяртанне ў Эдэм" (Аўстралія).
18.50. Вялікая прагулка.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.00. Навіны.
20.40. Лато "Мільён".
21.10. Рэпартаж ні аб чым.
21.25. "Спіраль". 4-я серыя.
23.00. Навіны.
23.25. Фестываль "Авацыя".
0.40. Прэс-экспрэс.
0.50. "Скарбонка". Маст. фільм. 1-я серыя.

**Канал "Расія"**

7.00. Весткі.
7.25. Час дзелавых людзей.
7.55. Студыя "Нотабене".
8.50. Сам сабе рэжысёр.
9.20. "Сідней вялікі і маленькі".
9.50. Цішыня N 9.
10.50. Мульці-пульці. "Усіх злавіў".
11.00. "Санта-Барбара".
12.40. Сялянскае пытанне.
13.00. Весткі.
13.25. Настальгічныя вячоркі.
13.55. Вольны час.
14.10. С.Мрожак. "Чарадзейная ноч". Апавяданне.
15.00. Алгарытмы.
15.30. Там-там навіны.
15.45. Гульня без пройгрышу.
16.15. Штрыхі да партрэта.
17.00. М-трэст.
17.15. Апазіцыя.
18.00. Парламенцкі веснік.
18.15. Кіпрас Мажэйка. Рэпартажы з "Малой Еўропы".
18.45. Свята кожны дзень.
19.00. Весткі.
19.25. "Санта-Барбара".
20.15. У свеце аўта- і мотаспорту.
20.50. "Як жонкі сваіх мужоў прадавалі". Мультфільм для дарослых.
21.00. Айчына мая.
22.00. Весткі.
22.20. Зоркі гавораць.
22.25. Спартыўная карусель.
22.30. Давайце разбяромся.
22.40. На сесіі ВС Расіі.
23.10. Балет Санкт-Пецярбурга. "Юбілей Аскольда Макарава".

## *Советы доктора Петра Куреннова*

**Предлагаем вниманию читателей испытанные рецепты известного врачевателя П.М.Куреннова. Во многих советах его известной книги указывается на употребление большого количества соков, воды, чая, настоев из трав. В каждом индивидуальном случае количество жидкости следует определять с врачом. Но один день в неделю жить лишь на соках, воде, отварах из трав, ежедневно утро начинать со стакана сока, чая с ложечкой меда — не повредит никому. Итак, предлагаем советы доктора П.М.Куреннова.**

### 1. Очищение организма

Многие болезни наседают на нас из-за употребления чрезмерного количества жиров, сладостей, мяса. Желудок не может справиться со всей массой еды, которую мы как бы с доброй целью пытаемся съесть сами или заставляем съесть своих близких. Результат — масса ненужных шлаков, загрязняющих желудочный тракт, желчный пузырь, печень, почки, поджелудочную железу, сосуды. Часто человек жалуется на боли в голове, в печени... Просит помочь ему, дать какие-то чудодейственные лекарства. И не хочет думать, что избавиться от недомогания может сам. Поэтому, перед тем как излечиваться лекарствами, необходимо очистить организм.

Как это делается? Способов много. Самый простой и самый приятный — соки и вода. Утром натощак выпейте стакан сока наполовину с водой, лучше, если это будет сок из двух лимонов. Потом пейте сок с водой: яблочный, морковный, свекольный, смородиновый — через час по стакану. Есть при этом ничего не нужно. На следующий день, если чувствуете себя хорошо, можно повторить то же самое. Если же ощущаете слабость, головокружение, начинайте есть. Ни в коем случае ничего жирного, соленого, сладкого, жареного. Через несколько дней у вас исчезнут боли в суставах, голове, внутренних органах, появится легкость во всем теле, вы похудеете. Попробуйте теперь ответственно отрегулировать свое питание, сделайте так, чтобы в дневном рационе было много овощей, фруктов, кисломолочных продуктов и совсем мало таких, что создают в организме запасы шлаков, — в частности, жареных блюд, жиров, сладких пирожков, пирожных.

### Камни в печени и почках

Потолочь один стакан семян льна, смешать с тремя стаканами сырого молока, кипятить, пока из всей смеси останется один стакан, процедить. Каждый день пить по стакану в течение пяти дней. Через десять дней повторить. Возможны боли. Это означает, что растворяются камни или песок. Потом настает облегчение. Через год повторить. Исключить из рациона острые и жареные блюда.

### У вас болит голова

Чаще всего это случается, если организм, в том числе и сосуды, замусорены шлаками. Прежде всего очистите организм. А потом употребляйте настойки из корня валерианы, листьев земляники, зверобоя, мяты, цветков ромашки, календулы. Больше бывайте на свежем воздухе перед сном, больше ходите. Не забывайте также про хорошее настроение, позитивные эмоции. Как приготовить настойки? Возьмите по одной ложке валерианы, листьев мяты, зверобоя, всыпьте немного сухих цветков ромашки и календулы. Залейте литром кипятка, несколько минут подержите на огне. Остудите, процедите. Пейте по четверти стакана дважды или трижды в день.

### От ревматизма и радикулита

Взять два фунта* сенной трухи, положить в ситцевый или холщовый мешочек, потом в кастрюлю или чугунок, залить водой и кипятить 30 мин. Отвар вылить в ванну, долить до половины горячей водой, какую только можно выдержать, сесть в ванну, хорошо закрыть ее плотной тканью, оставив только отверстие для головы. Сидеть до тех пор, пока вода из горячей не станет теплой. Сенная труха имеет много полезных веществ, эфирные масла. В ванне они хорошо проникают в поры, проявляя высокие лечебные свойства. Ванны из сенной трухи рекомендуется принимать перед сном. Уже после второй-третьей процедуры приходит облегчение, исчезают боли.

* 1 фунт — 400 г.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Рэкламнае бюро — 29-34-05, 27-33-96; факс — (0172) 27-37-63.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор даных, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, калі ў матэрыялах змешчаны даныя, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Лісты чытачоў друкуюцца на мове арыгінала. Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя "Народнай газеты" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы.

Рэдакцыйныя тэлефоны: грамадская прыёмная — 29-60-86; прыёмная галоўнага рэдактара — 29-60-08; намеснікі галоўнага рэдактара — 29-69-04, 29-64-21, 27-22-16; юрыдычнае бюро — 29-69-68; карэктура — 29-62-12; стыльрэдактар — 29-64-04; мастак — 20-62-43; бухгалтэрыя — 29-60-21, 29-67-23; бізнес-бюро — 29-65-50.

Аглядальнікі па пытаннях дзейнасці: парламента рэспублікі, грамадска-палітычных арганізацый і рухаў — 29-66-04; урада рэспублікі — 29-68-12; мясцовых Саветаў — 29-61-56; дзяржаўных органаў — 29-64-78; аграрнай палітыкі — 29-60-42; экалогіі, ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі і НТП — 20-41-82; сацыяльнай пераарыентацыі эканомікі — 20-52-65;сацыяльнай пераарыентацыі сферы абслугоўвання — 29-69-68; сацыяльнага вывучэння грамадскай думкі і аналізу пошты — 29-68-03; культуры і нацыянальнага адраджэння — 29-61-56; маралі і права — 29-69-87, 29-61-76; сацыяльнай абароны асобы — 29-69-87; аператыўных падзей, фізкультуры і спорту — 20-83-97; палітычны каментатар — 29-65-01.

Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Брэсце —42-49-35; у Віцебску — 5-12-12; у Гомелі — 55-81-05; у Гродне — 45-35-61; у Магілёве — 26-35-38; у Маскве — 365-16-44.

Адрас рэдакцыі: 220010, Мінск, Дом урада.

Індэкс 63868

Выходзіць штодзённа, акрамя нядзелі і панядзелка. 250 разоў у год.
Тыраж 607.902 экз.
Падпісана ў друк у 19.10.
Газета аддрукавана ў друкарні выдавецтва"Беларускі Дом друку".
Спосаб друку — афсетны, фармат А-2
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ